№ 2



1933

ОРГАН ЦК ЛКСМБ НАРКАМАСЬВЕТЫ

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

Год выданьня 5



# Інжынэры

Верш М. Калачынскага

У Валеры ды у Гога
Сёньня працы
Вельмі многа.
Гэты цэлы дзень і вечар
Удваіх майструюць рэчы.
Ляп-ляп-ляп...
Ды стук і стук!
Так чуваць навокал тут.

Заўтра раніцай сябры
Хутка мчаліся з гары.
На гатовых, новых
санках
Малыша вазілі—Янку.
Ну і Гог, ну й Валеры—
Проста нібы інжынэры.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, Камсамольская, 25






# Дзьве дошкі

Апавяданьне Я. Кур'яновіча
Малюнкі Шахрай

Няпрыемная рэч здарылася з Паўлікам. І першым паведаміў яму пра гэта Пятрусь.

— Гультай, паглядзі, як ты асядлаў чорную дошку! Вось праз такіх як ты і ўсёй групе сорамна. Ідзі, ідзі,—цягнуў за паўлікаў рукаў Пятрусь,—паглядзі сам.

Паўлік упіраўся і не хацеў падыходзіць.

Навакол хлопцаў сабраліся вучні. Яны сьмяяліся з паўлікавай баязьлівасьці і з Пятруся, што ня мог здолець падвесьці Паўліка да дошкі.

На гэту гамонку найшоў настаўнік.

— Што тут такое? — спытаў спакойна настаўнік.

— Ён на чорную дошку трапіў,—адказаў за Паўліка Антось.

— Дрэнна, дрэнна, Паўлік, калі ты дапусьціўся да гэтага.

— А чаму другіх не пасадзілі?

— Бо другія на занятці акуратна прыходзяць, заданьні падрыхтоўваюць, а ты гультаіш, — сказаў старшыня школьнага камітэту.

— А ты больш не рабі прагулаў, падрыхтоўвай свае вурокі, старайся вучыцца добра і будзеш на чырвонай дошцы,—раіў настаўнік.

* * *

Дома Паўлік бацьком нічога не сказаў пра здарэньне з ім. Праз некалькі дзён бацька сам заўважыў у Паўліку перамену. То раней хлопец адсюль-адтуль ґуляць бяжыць, ніякай рупнасьці да заданьняў няма ў яго, а гэта зусім другое.

Прыдзе Паўлік са школы, паабедае, пабяжыць пагуляе з паўгадзіны ды за кніжкі

бярэцца. І раніцаю стараецца, каб не спазьніцца ў школу. Матку падганяе.

— Скарэй есьці давайце, а то спазьнюся яшчэ.

— Нешта цябе ахвота вельмі ўзяла да вучобы?

— А што-ж, адставаць буду заўсёды. І так усе мае таварышы лепей за мяне чытаюць.

Аднойчы вечарам паўлікаў бацька Рыгор вышаў да суседа Тамаша пасядзець. Аж там хлопец яго Грышка і кажа:

— Гэта-ж ваш Паўлік на чорную дошку папаў.

— За што?

— Пазьніўся на заняткі і заданьні дрэнна падрыхтоўваў. А цяпер, нябось, падцягнуўся.

— Дык гэта онь што з ім сталася. Я гляджу, хлопец зусім перамяніўся, — адказаў на грышкавы словы Рыгор.

Вярнуўшыся дахаты, бацька распытаўся ў Паўліка пра здарэньне з ім у школе.

Сорамна было расказаць Паўліку пра чорную дошку, але расказаў усё.

— От бачыш, сынок, як дрэнна ня слухаць настаўніка, бацькоў. А мы табе не казалі, дык ты ўсё гуляў. А ў тваіх гадох сама вучыцца. Я стары і то от хадзіць думаю на лікпункт. Бо што чалавекварты, калі ён ні бэ, ні мэ ня ведае...

І Паўлік дакляраваў бацьком апраўдаць іх надзею.





* * *

Прайшло некалькі дзён з таго часу.

Зноў было паседжаньне школьнага камітэту. Разглядалі вынікі спаборніцтва паміж II і III групаю.

Праверылі як сьлед, і вялікія зьмены выявілі. У другой групе быў толькі адзін прагул і то па ўважлівай прычыне, а ў трэцяй—ніводнага.

На гэтым-жа паседжаньні школьнага камітэту зьнялі з чорнае дошкі і Паўліка. А ўсю трэцюю групу—на чырвоную дошку.

Радасны прыбег Паўлік дадому.

— Ну, мамачка, зьнялі мяне з чорнае дошкі.

— А чаму-ж ты не пахваліўся, як трапіў туды,—засьмяялася ў адказ маці.—Глядзі-ж, не пападайся больш.

— Цяпер я не дапушчуся да гэтага ніколі,—даў абяцаньне Паўлік.





# КАРЛ ЛІБКНЭХТ

60 гадоў таму назад у германскага рэвалюцыянэра Вільгельма Лібкнэхта нарадзіўся сын Карл.



Бацька маленькага Карла быў правадыром рабочых. За гэта паліцыя пасадзіла яго ў турму.

Карл быў яшчэ зусім маленькім, калі ўведаў, што такое турма. Яго маці хадзіла даведвацца бацькі і брала з сабою Карла.

Кепска жылося бацьком Карла, але ніхто не бедаваў. Усе былі вясёлыя і шчасьлівыя.

— Прыдзе час, рабочыя перамогуць, і кайзэра Вільгельма ня будзе,—казаў бацька.

Кайзэр па-нямецку азначае—цар.

А калі Карл вырас, ён стаў адвакатам і на судзе заўсёды абараняў рэвалюцыянэраў.

Ён любіў маладых рабочых, працаваў разам з імі.

Іх вучыў ён змагацца за пралетарскую рэвалюцыю.

Нямецкая буржуазія ненавідзела Лібкнэхта і баялася яго. Карла абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе і пасадзілі ў турму.

Турма не зламала Карла, ён вышаў з турмы такім-жа гатовым на змаганьне з буржуазіяй, як і раней.

„Жалезны Карл"—так празвалі яго таварышы.

У 1914 годзе загарэлася сусьветная вайна. Цары, прэзыдэнты і каралі па загаду буржуазіі паслалі рабочых і сялян на бой, каб забіваць адзін другога.

— Вайна патрэбна толькі буржуазіі. Нам вайна непатрэбна. Мы ня хочам вайны!—заяўлялі рабочыя.

Але іхныя правадыры — сацыял-дэмакраты—аказаліся здрадніцкімі. Яны ўгаварылі рабочых ісьці змагацца супроць ворага. А хто быў ворагам рускаму салдату? Хто быў ворагам нямецкаму салдату? Рабочы рабочаму ня вораг, а таварыш. А вораг у рускіх, нямецкіх, францускіх салдат быў адзін і той-жа—капіталісты.

Толькі бальшавікі, на чале з т. Леніным, голасна на ўвесь сьвет сказалі:

— Сацыял-дэмакраты здрадзілі пралетарыяту. Вайну, якую вядуць капіталісты дзеля нажывы, трэба пераварыць у вайну грамадзянскую. Салдаты, падайце таварыш таварышу рукі — вы браты! А вінтоўкі свае павярнеце супроць сваёй буржуазіі!



Цары і каралі па загаду буржуазіі паслалі рабочых і сялян на бой...

У Германіі толькі Лібкнэхт са сваімі таварышамі пачаў барацьбу супроць вайны. Яны арганізавалі саюз і назвалі яго „Спартак".

Імёны Леніна і Лібкнэхта сталі сьцягам змаганьня супроць вайны і кожны салдат у акопе насіў іх у сэрцы.

За выступленьні супроць вайны буржуазія зноў пасадзіла Карла ў турму.



**Салдаты—ня ворагі адзін другому, а браты.**

Пра нашу рэвалюцыю Карл даведаўся ў турме. Вестка аб перамозе Леніна ў Кастрычніку ўзрадвала Карла і нямецкіх рабочых.

Рабочыя патрабавалі ў буржуазіі вызваліць іх правадыра Лібкнэхта. Буржуазія напалохалася гэтага магутнага выступленьня — выпусьціла Карла.

Тысячы працоўных з вялікаю радасьцю сустрэлі свайго правадыра. Ленін, Сталін, Сьвярдлоў паслалі яму прывітальную тэлеграму.

Карл Лібкнэхт гаварыў:

— Калі-б у мяне было не адно жыцьцё, а дзесяць — усе аддаў-бы я за справу рэвалюцыі!



**Афіцэры забілі Карла Лібкнэхта.**

У 1918 годзе ў Германіі пачалася рэвалюцыя. Бэрлін стаў чырвоным. Кайзэр уцёк. Карл становіцца на чале рэвалюцыі.

Але тут выступілі зноў сацыял-дэмакраты. Яны заклікалі рабочых кінуць зброю.

І многія рабочыя пайшлі за імі.

А гэтым часам буржуазія сабрала сілы і ў крыві затапіла рэвалюцыю.

Карл зноў быў арыштаваны як правадыр рэвалюцыі.

Па дарозе ў турму афіцэры забілі Карла Лібкнэхта.

25-га студзеня 1919 г. рабочыя хавалі свайго правадыра Карла Лібкнэхта разам з загінуўшымі за рэвалюцыю таварышамі.

Буржуазія думала, што разам з Лібкнэхтам забіла рэвалюцыю. Але яна памылілася.

Ён памёр, Лібкнэхт, сьмелы, вялікі правадыр германскага пралетарыяту і моладзі. Але сьцяг яго — Чырвоны сьцяг рэвалюцыі—падхапілі пралетары ўсяго сьвету.





# Колькі жыхароў у хаце

*жарт*

— Дзед Хвядот, скажы папраўдзе,
Хто жыве з табою ў хаце?
— Вось пытаньне! Што за жарты?
Сьмеху, дзеткі, гэта варта.
І чаму-ж ня ведаць мне,
Хто са мною тут жыве?
— Сын Андрэйка,
Ўнук Ляксейка,
Ўнучка Ганка
Ды нявестка мая Манька.
Пяць усіх нас, вось што, дзеці,
Хто ня верыць—палічаце.
Тут дзьве мышкі пад сталом
Вушкі навастрылі:
— Мы-ж таксама тут жывём,
А нас ня лічылі...

Прусакі, ліхі народ,
Зазлавалі такжа:
— Пачакай-жа, дзед Хвядот,
Мы табе пакажам.

А блыха, што мела сілы,
Моцна дзеда укусіла:
„Знай, Хвядот, кажы папраўдзе,
Хто жыве з табою ў хаце!“










Якія гэта зьвяры і ў якіх краінах яны жывуць?




У канцылярыі праўленьня калгасу сёньня сход піанэратраду. Гаворыць важаты—Рая Нахамчык.

— Нам трэба больш пільна ахоўваць калгасную маёмасьць. Шмат ёсьць ворагаў, якія стараюцца падарваць сацыялістычную гаспадарку. Кулак яшчэ недабіты. Ён і сам шкодзіць, і нагаварвае несьвядомых беднякоў і серадиякоў, каб расьцягвалі грамадзкае дабро...

Уважна слухаюць піанэры даклад.

Кончыла Рая. Тады гаварыў Уладзік. Праўда, ня так складна як Рая. Але не бяда! Калі Ўладзік, як і Рая, дойдзе да 7-й клясы, дык навучыцца добра выступаць на сходзе. Можа, яшчэ лепш.

Уладзік сеў, і цяпер толькі ўспомніў, што забыўся яшчэ сказаць пра слабы нагляд за капцамі бульбы. Хацеў зноў устаць, але ўжо гаварыў Дзямян Мажэйка. Той,

з якім Уладзік раней добра сябраваў. Але тыдні са два назад Дзямян стаў як-бы не прызнаваць Уладзіка за сябра. Раней абяцаў даць кніжку: „Як самому зрабіць дынамамашыну", а надоечы—адмовіў. Спаслаўся, што кніжка недзе загубілася і ён, Дзямян, бадай ці знойдзе. Крыўдна зрабілася тады Ўладзіку За што?

Пра гэтае „за што" і кажа цяпер Дзямян.

— Кулак, як вужака, выкручваецца, каб пашкодзіць калгасу. Скажу пра Шчупака, пра ўладзікавага бацьку скажу...

Уладзік аж зьбялеў, калі Дзямян параўнаў яго бацьку са Шчупаком.

— Уладзікаў бацька бядняк, але чаго ён зьвязаўся з былымураднікам? Чаго ён дапусьціўся, каб гэты Шчупак яго падпойваў? Чаму Уладзік не сказаў, чаго ўчашчае Шчупак да яго бацькі, якія вядзе гішэфты? Уладзік тут казаў, што Шчупак накраў сена, а я ведаю, што і ўладзікаў бацька памагаў гэтае сена цягаць... Піянэр не павінен захоўваць, калі бацька пачынае сыходзіць з правільнай дарогі.

Як чым вострым і пякучым, калоў Дзямян Уладзіка словамі. Яго бацька—калгасьнік, былы бядняк, трапіў пад кулацкі ўплыў! Сорам, ганьба! А Ўладзік і сам добра ня ведаў, чаго цягаецца да іх Шчупак, якія шкодныя вядзе нагаворы...

Уладзік ішоў са сходу і не адчуваў завірухі, якая бушавала ў цемені ночы. У яго нутры рызыдавала свая мяцеліца, адна за аднэй беглі плоймы думак, гарачых і

напружных. Ён, Уладзік, не дапусьціць, каб праз нядобрыя справы, да якіх падбухторвае кулак Шчупак, паганіўся яго бацька. Шчупак—не хаўрус іх сям'і! Уладзік пагаворыць са сваім бацькам.

Дома бацькі Ўладзік не застаў.

— Са Шчупаком некуды пацёгся,—уздыхнула маці, кладучы ў калыску Андрэйку.

Позна клаўся спаць Уладзік, а бацькі ўсё яшчэ ня было. Уладзік доўгі час варочаўся на сяньніку, думаючы, з чаго і як лепш пачаць гаворку з бацькам. Сон падкраўся няпрыкметна. Колькі часу ён спаў—невядома. Усхапіўся ад нейкага шуршаньня на печы, ад яркага сьвятла ў вочы.

— Сьпі,—буркнуў яму бацька.—На дварэ яшчэ ноч...

Але ўладзікаў сон як вадою змыла. Ды яшчэ балеў, як на тое, сьпечаны на чарэні локаць.

Відно стала на печы ад газьніцы. Толькі па куткох бегалі цёмныя цені ад бацькавай постаці.

— Дзе тут тыя мяшкі?—перакідаючы за комінам трэскі і смалякі, пытае Цягун у жонкі.—Чуеш, баба?

Уладзікава матка варушыцца на палку.

— Згараць яны няхай, твае мяшкі! Што ты будзеш з імі рабіць?—абзываецца яна раптам.—Зладзейства, абармоты, надумалі ўчыніць! Да пары збан ваду носіць...

У цёмным кутку на лаўцы нехта зварухнуўся. Зарыпеў стол. Загрукалі боты па падлозе.

— Дык хадзем да мяне, калі гэтакая сварка. Я свае мяшкі вазьму...—зашыпеў нехта ля стала.



Уладзік падняў галаву і ўглядзеўся ў цёмны куток. Стаяў там, зашпільваючы кажух, Сідар Шчупак. За ім уперлася ў цьмяныя шыбы вакна ноч, густая і бурная. Тугі вецер высьвістваў у коміне, коўзаўся па страсе.

— Другога такога часу можа і ня выпадзе,—зноў ціхенька прагаварыў Шчупак.—На дварэ, хоць вочы выкалі—чарната.

Уладзікава маці злосна крычыць:

— Міхась ня пойдзе! Даволі ён і так пад тваю дудку паскакаў. Няма чаго падзуджваць на зладзейства.

— Тата, ня ідзі!—саскочыўшы з печы, учапіўся Уладзік за бацькаў рукаў.—Пра цябе вунь усюды загаварылі.

Шчупак узьеўся:

— І гэты сапляк свой нос усюды тыцкае.

Бацька нерашуча затупаў па хаце.

— Чаго вы ўсхадзіліся?—пачаў супакойваць,—я толькі памагу Сідару мяшкі на воз класьці. Чалавек у млын вязе...

— Ведаю, якія мяшкі!—крычала Ўладзікава маці.— Гэтыя мяшкі да дабра не давядуць.

Шчупак ня слухае яе. Павольна пасоўваецца да Міхася. Нешта шэпча яму на вуха. Потым ідзе да дзьвярэй.

— Бывайце здаровы.

Ніхто яму не адказаў. Толькі бацька неяк няёмка ківае галавой. Потым усьцягвае на сябе кажух і гаворыць:

— Прайдуся на хвілінку на двор.—Ён нагінаецца, папраўляе бот. Чуе ад яго Ўладзік душны чад гарэлкі.

Чакае Ўладзік, ня прыходзіць бацька. Шмат прайшло часу. Ужо заснула маці. Не зварухнецца Андрэйка ў калысцы. Ціха ў хаце.

„А што, калі яны сьвіран абкрадваюць?"—аж пахаладзела ўсё ў яго ў сярэдзіне. „Трэба бегчы, вярнуць бацьку"...

Цемень і сьнег, сухі і халодны, сьлепяць яму вочы, калі выбягае на двор. За хатаю рыпіць мёрзлае гальлё вішняку. Вецер, скаціўшыся са страхі, расхліствае яго кажушок і сыпле за каўнер халодную муку сьнегу. Нічога ня згледзець у гэтай сібернай тване. За варотамі Ўладзік адразу паварочвае ў левы бок. У канцы вёскі Засонкі—калгасная сядзіба: там даўжэразны сьвінарнік, капцы з бульбай для фэрмы і сьвіран. І недзе ў сьвірне...

Ён імкліва бяжыць праз буру і цемень ночы.

Ля дзьвярэй сьвірна нікога няма. Ён абмацвае рукамі замок,—замок цэлы! Уладзік ужо зьбіраецца ісьці дахаты: нікога тут няма! Але што гэта?

... Да яго слыху данеслася выразнае хрумстаньне сена ханём, нейкае шуршаньне з другога боку сьвірна па сьцяне.

„Яны“ думае Ўладзік. Асьцярожна ідзе туды, дзе шум.

Нейкая цень пасоўваецца на яго.

— Тата?

Цень насядае і бярэ за горла вузлаватымі жылістымі пальцамі. Шпурляе маленькага Ўладзіка аб сьцяну.

— Я табе пакажу „тату“! Шчанё!..



Нехта саскочыў зьверху на мерзлую, гулкую зямлю.

— Што здарылася?—пачуўся палахлівы вокліч.

Шчупак зьедліва захрыпеў.

— Прыбег нейкі шчанюк... Але я яго крыху супакоіў...

— Як супакоіў?—трывожна спытаў Міхась Цягун.— Хто там?

Вобмацкам шукаючы „некага“, Міхась Цягун зачапіўся нагамі і паваліўся. Абвёў вакол сябе рукамі. Напаткаў галаву бяз шапкі, а ў валасох нешта цёплае і ліпкае...

„Кроў!“—мільганула думка ў Міхася.

— Ты-ж чалавека забіў!—усхапіўся ён.

— Д'яблы яго ня возьмуць.

— А што ён табе зрабіў?

— Пагражаў. Казаў старшыні заявіць.

Адчувае Міхась Цягун: нешта зварухнулася ля яго ног, застагнала. Нехта ўхапіўся за крысо кажуха. Міхась павольна махнуў рукою і зноў напаткаў у валасох ліпкую цяплыню. Гэта цяплыня аж у руку кальнула, аж запякла агнём унутры. Раптам апамятаваўся Міхась.

— А, дык ты гэтак? Дык ты людзей забіваць яшчэ будзеш, зьвяруга ты?!—і закрычаў на ўвесь голас: - Вартаўнікі, сюды! Го-го, вартаўнікі! Тут сьвіран абкрадваюць...

— Сюды, сюды! Скарэй,—абазваўся звонкі голас Гэта крычаў Уладзік—сын Міхася Цягуна, пільна цікуючы сваімі порсткімі вачыма праз замець і цемень, у якой зьнікаў разьюшаны Шчупак.

# КЫС МАРЫНКА

Апавяданьне А. Дабрынскай і Г. Маклер
Малюнкі Е. Афанасьсевай

Кыс—па-якуцкі дзяўчынка.

Жыве гэтая маленькая кыс сярод лясоў, гор, рэчак, у нізенькай хатцы з маленькімі вакенцамі.

У хатцы няма падлогі--проста зямля.

У вакенцах няма шыбаў—белыя анучкі заміж іх. А зімою там холадна, холадна—у вакенцы ўстаўляюцца кавалачкі лёду.

Хата, дзе жыве кыс Марынка, называецца юртаю.

А краіна—Якуція́й.



У кыс Марынкі бацька—паляўнічы.

Ён страляе белых пясцоў і лісіц. І сама маленькая кыс умее страляць з лука.

Улетку яна ганяецца з лукам за маленькімі зьвяркамі з пушыстымі хвосьцікамі. А маленькі брацік Марынкі нядаўна застрэліў зайца.

Бацька прынёс забітага глушца. Гэта — вялікая лесавая курыца.

Кыс Марынка шчыпле пер'я з птушкі. Будзе смачны наварысты суп!

Маці сьпяшаецца раскласьці агонь у ачагу. Ачаг — гэта такая печ. У ёй відаць усе дровы, полымя, вугольле. Ачаг як сонца ў якуцкім доме — і сьвеціць, і грэе, і відаць адусюль.

У кыс Марынкі няма цацак. І яна забаўляецца рудымі пер'ямі глушца. Яна набярэ іх у рукі, дзьмухне на іх, — пер'і разьлятаюцца, а кыс іх ловіць.

Кыс Марынка — худзенькая і стройная. Сукенка ў яе доўгая, да самых пятак.



Нагуляўшыся з пер'ямі, кыс ускочыць на ганачак ачага — каля ачага

ёсьць ганачак — і пашавеліць у ім вугольлі, каб ярчэй гарэў агонь. А ў кацялку ўжо пыхкае наварны суп з глушца.





Ранічкаю кыс бяжыць па траве да маленькага доміка без дзьвярэй. Там у яе жывуць лісяняткі. Яна нясе ім есьці.



Потым кыс бяжыць у лес на паляваньне за маленькімі зьвяркамі—бурундучкамі.



У іх вёсцы ўсе паляўнічыя. У іх паляўнічы калгас. Паляўнічыя забіваюць зьвяроў і заносяць шкуры ў каапэратыў. А там ім даюць муку, цукар, газу, паркаль.

Спачатку зімы Марынка пачала хадзіць у школу. З гэтай зімы ўсе дзеці павінны пачаць вучыцца. Па ўсім Савецкім Саюзе, і ў Якуціі таксама, не павінна астацца няграматных дзяцей.

Кожнай раніцы па белым сьнезе з розных бакоў пачынаюць варушыцца малень-кія, як кропелькі, фігуркі.

Ідуць... Ідуць...

Сядзіць маленькая кыс з сваімі сяброўкамі каля новай печы, якую паставілі ў іхняй школе.

Печ вялікая і зусім непадобная на ачаг. І школа зусім непадобная на юрту. Яна



збудавана з бярвеньняў, і ў вокнах не лядзяшкі, а празрыстыя шыбы. А настаў-



ніца сказала, што скора збудуюць зусім вялікую школу з цэглы, як у вялікіх гарадох.

Любіць Марынка слухаць, як апавядае настаўніца пра вялікі горад, пра тое, як паслаў яе сельсавет вучыцца, каб яна магла вучыць дзяцей у сваёй вёсцы.

І Марынка хоча ўсё ўцяміць, усё ўбачыць, усяму навучыцца.

Маленькая кыс прыходзіць са школы, разгортвае лемантар і пачынае складваць літары, словы. Водзіць пальчыкам па кніжцы. Потым возьме аловак і пачынае выводзіць літары. А з літар выходзяць словы:

———— БУДЗЬ ГАТОЎ!



# Мой першы дзень у ганчарні

*(Апавяданьне ангельскай дзяўчынкі—работніцы)*

Мае бацькі беспрацоўныя. Каб памагчы хоць крыху ім, я паступіла ў ганчарню на работу.

Загадчык майстэрні паставіў мяне да вялікага станка. Я павінна была насіць формы для збанкоў.

У ганчарні было вельмі ґорача. Пахла гнільлю, майстэрню ніколі не праветрывалі. Галава ад гэтага разбалелася з першых-жа гадзін. Я ледзь не задыхнулася.

Спачатку я вымала з печы гарачыя формы, даставала з іх гарачыя збанкі, якія ставіла на паліцу.

Потым насіла поўныя формы і ставіла іх у печ. І так праз увесь час, без адпачынку. Гэта вельмі цяжкая работа.

У абед я ледзь дацягнулася дахаты—так зьнясілела

ад работы. Але я не паскардзілася бацьком, каб не ўжаліць іх.

І як неахвотна я ішла на работу пасьля абеду!

Гадзін у чатыры я зусім зьнясілела. У вачох стала цёмна. Я прысела на лаўку, адпачыла крыху, а потым зноў пашла да свайго станка. Толькі ў 5 гадзін 30 хвілін мяне пусьцілі з работы.

О, з якой радасьцю я пабегла дадому!

Вось што я перажыла ў першы дзень маёй работы.



# „Іскры Ільліча"—У ДЗІЦЯЧЫЯ МАСЫ

## часопісь дапамагае нам у рабоце

Мы з самага пачатку навучальнага году пашырэньню дзіцячага друку аддалі сур'ёзную ўвагу. Галоўнае, мы ўзяліся за пашырэньне адзінай у Беларусі ілюстраванай дзіцячай часопісі „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА".

Адразу мы расказалі вучням аб значэньні дзіцячай літаратуры ў в чобе і шляхам сацспаборніцтва паміж групамі дабіліся таго, што на сьнежань мы мелі 39 падпішчыкаў.

Выпісваюць часопісь вучні як старэйшых, так і малодшых груп.

У сваёй рабоце мы скарыстоўваем „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА" на занятках, як падручнік, бо тут мы знаходзім матар'ял на пытаньні і падзеі бягучага моманту. У часопісі друкуюцца вельмі патрэбныя для работы ў школе песьні і гульні.

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА" даюць нам вялікую дапамогу. Мы раім усім настаўнікам азнаёміць вучняў з часопісьсю, правесьці сярод іх падпіску. Гэта дапаможа вам у працы.

Настаўнікі Глінішчанскай школы
(Бярэзінскі раён)—П. РУНЕЦ і
Я. КУР'ЯНОВІЧ.

## Выпісваю і выклікаю

Я вучуся ў 35-й ФЗС, у 2-й групе. Часопісь „Іскры Ільліча" выпісваю ўжо тры гады.

Часопісь знаёміць мяне з тым, што робіцца ў Савецкім Саюзе, як жывуць дзеці працоўных за межамі. Мне вельмі падабаюцца ў часопісі апавяданьні, нарысы, вершы.

Усе вершы я добра вывучваю напамяць.

Выпісваю часопісь „Іскры Ільліча" на ўвесь 1933 год і выклікаю пасьледваць майму прыкладу ўсіх вучняў 2-й групы 35-й ФЗС.

г. Менск.

Міранская Дора.

# Падумай

## Загадкі



1. Сядзіць баба, на ёй 70 сукенак і ні адна не зашпілена.
2. Круглая, а ня месяц, з хвастом, а ня мыш.
3. Маладзіца ў цямніцы, а каса на вуліцы.

## Што гэта за дом?

Дом ня дом,
З коміна дым слупом.
Ходзіць падлога хадуном.
У ім хістаецца народ
То ўзад, то ўпярод.
Гэта будзе...

## Загадачны малюнак




Дзе ў гэты час быў вартаўнік, калі злодзеі адмыкалі склад? Пашукайце яго на гэтым малюнку.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 435 7640 экз. Менгарліт № 1410

